**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

29 (589) 21 ліпеня 2011 года

Кошт свабодны.



Абвесткі з хатняга тэлефона ў «Вольнае Глыбокае».
**Дзённа й ночна**
на нумар 166



## Браслаўскі раён

# Заслон для кантрабанды

■ Станіслаў Раманчук

**Пасля ўведзеных кіраўніцтвам краіны абмежаванняў на вываз шэрагу тавараў спробы правозу кантрабанды праз дзяржаўную мяжу не зменшыліся.**

Зноў у цэнтры гучнай справы аказаўся пагранічны пункт пропуску “Урбаны”, размешчаны ў Браслаўскім раёне. На гэты раз сёлета празмерна залілі гаручага ў бакі вадзіцелі адразу трох вялікагрузных аўтамабіляў, якія ехалі ў Латвійскую Рэспубліку. Пры пільным даглядзе супрацоўнікамі мясцовай Віцебскай мытні на такой нелегальнай рэалізацыі паліва папаліся кіроўцы з суседніх Літвы і Польшчы. У іх было знойдзена звыш 3 тон дызельнага паліва. Дзе маглі, прадпрымальныя грамадзяне ЕС схавалі дадатковыя каністры з салярай. Адну з іх замаскіравалі нават пад спецыяльным казырком на даху фуры. Не было нечаканасцю для спрактыкаваных спецыялістаў і тое, што памеры дадатковых бакоў былі павялічаны істотна. Туды ўдалося заліць яшчэ каля 2 тон дызпаліва, таксама і асноўныя бакі былі поўныя. У выніку па гэтай справе замежным вадзіцелям пагражаюць буйныя непрыемнасці. Па дзеючым заканадаўстве за спробу правозу кантрабанднага паліва яны заплоцяць штраф у памеры каля 2 млн. рублёў кожны. Не выключаецца і такая мера, як канфіскацыя машын разам з палівам. Дарэчы, літоўцы ўжо ўвялі на сваёй тэрыторыі новыя абмежаванні на ўвоз паліва ў 10-літровых каністрах акрамя поўных бакаў.

## Докшыцкі раён

# Сховішча ўспыхнула, як запалка

■ Чэслаў Якубовіч

**Гарачае і сухое лета – павышаная небяспека ўзнікнення пажараў.**

І не дзіўна, таму што на працягу адных толькі выхадных па вобласці ўзнікла адразу 13 такіх вогненных здарэнняў, пераважна ў жылым сектары. Праўда, буйны пажар іншага роду быў зафіксаваны ў Докшыцкім раёне. Паблізу вёскі Крыпулі пад раніцу ўзнік пажар у сховішчы сена, нарыхтаванага ў сельскагаспадарчым філіяле мясцовага райаграсервіса. Сігнал аб гэтым дзяжурны райаддзела МНС прыняў каля 5 гадзін раніцы. Праз некаторы час пажарныя машыны прыляцелі сюды і ўбачылі страшны малюнак. Вялізнае полымя хутка перакінулася на практычна ўвесь зялёны корм, прыпасены да зімы. Яго запасы складалі 120 тон, такой колькасці сена хапіла б, каб пракарміць статак цэлай фермы. Аднак было ўжо позна, паколькі бязлітасны агонь хутка даваршыў сваю чорную справу і знішчыў працу людзей. Самае крыўднае, што асноўнай прычынай гэтай бяды эксперты называюць наўмысны падпал. Праваахоўныя органы пачалі высвятленне, хто з мясцовых зламыснікаў мог мець дачыненне да гэтага правапарушэння. А вось у горадзе Орша асабістая неасцярожнасць пажылога чыгуначніка, задумаўшага памыць рукі пасля афарбоўкі кватэры растваральнікам паблізу газавай пліты, прывяла да апёкаў твару яго ўнука і да ўзнікнення пажару ў памяшканні.

## Пастаўскі раён

# А маглі б жыць і жыць

■ Кастусь Александровіч

**Празмерная цяга многіх беларусаў да ўжывання алкаголю ўсё часцей завяршаецца жыццёвымі трагедыямі.**

Не стаў выключэннем і Пастаўскі раён, дзе на працягу аднаго тыдня ў райбальніцы памерлі два працаздольныя мужчыны. Яны былі практычна аднаго ўзросту, адзін нябожчык пражыў толькі 41 год, яго сабрат па няшчасці быў старэйшым на год. Аднак абоіх падкасіла невылечная хвароба п’яніц – цыроз печані, якая звычайна звальваецца на хранічных алкаголікаў. А вось 56-гадовы калгасны электрык з вёскі Сурвілішкі выбраў для сябе іншы спосаб звесці рахункі з жыццём і павесіўся. Ён таксама рэдкія дні месяца не заглядаў у чарку, скардзіўся, што жыць стала нецікава. Дарэчы, тыя ці іншыя здарэнні, траўмы і калецтвы адбываюцца ў гэтай мясцовасці рэгулярна з-за істотнай алкагалізацыі значнай часткі насельніцтва. Толькі летась з сем’яў спіўшыхся бацькоў на Пастаўшчыне забралі 25 хлопчыкаў і дзяўчынак у сацыяльны прытулак. У стане алкагольнага дурману людзі становяцца падобнымі на звяроў. У раёне прыйшлося адправіць за краты дваіх сыноў-п’яніц ва ўзросце 34 і 37 гадоў, якія сістэматычна збівалі сваіх матуль-пенсіянерак, калі тыя не давалі ім грошай альбо рабілі заўвагі. Да таго ж апусцілася і 56-гадовая жыхарка раёна, ужо сама двойчы бабуля: падняла руку на родную маці. На падпітку селі за руль 23 матацыклісты толькі за адзін год. Штогод з-за гарэлкі дзясяткі мясцовых жыхароў развітваюцца з жыццём на вадаёмах, на пажарах, іншы раз проста замярзаюць на заснежаных вуліцах.




# Лічба нумара

**0,7%** - такім, па дадзеных афіцыйнай статыстыкі, у пачатку лета ў Беларусі з’яўляўся ўзровень зафіксаванага беспрацоўя. Больш за тое, у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года гэты паказчык нават палепшыўся на 0,2 працэнты, паколькі 1 чэрвеня летась не мелі працы 0,9 % беларусаў ад агульнай колькасці працаздольнага насельніцтва. Аднак верыць гэтым лічбам ніяк не выпадае, бо сёлета назіраецца даволі сур’ёзны эканамічны і валютны крызіс.

Нават супрацоўнікі Нацстаткамітэта канстатуюць, што ў нас у гэтым годзе больш людзей звальняюць, чым прымаюць на работу, асабліва ў галінах прамысловасці, гандлю, на транспарце і сувязі і нават у такіх сферах, як ахова здароўя, адукацыя, бытавое абслугоўванне. Больш за тое, новы беларускі прэм’ер Міхаіл Мясніковіч на нядаўняй сустрэчы з працоўнымі ў Івацэвічах абураўся таму, што звыш 300 тысяч суайчыннікаў у працаздольным узросце нідзе не працуюць і не вучацца. Па ягоных словах, дадзеныя апошняга перапісу насельніцтва паказалі, што яшчэ 84 тысячы чалавек наогул не бачаць сэнсу ісці шукаць сабе працу, займаючыся недзе нелегальным бізнесам.

Кіраўнік урада на Брэстчыне заявіў, што і беларускія студэнты павінны імкнуцца самі падзарабляць, як у багатых ЗША, а не разлічваць толькі на бацькоў і на дапамогу дзяржавы. Між тым, статыстыка сведчыць, што сёлета да пачатку лета ў Беларусі па розных прычынах было звольнена амаль 320 тысяч чалавек, з якіх каля 25 тысяч за прагулы і грубыя парушэнні працоўнай дысцыпліны. Звыш 3 тысяч работнікаў – па скарачэнні штатаў альбо ліквідацыі іх прадпрыемстваў, арганізацый. Таму трэба да існуючай тэндэнцыі аднесціся з разуменнем: абстаноўка ў краіне няпростая, цэны растуць і аб’явілі, што продаж валюты насельніцтву можа быць абмежаваны.

Сацыяльныя дасягненні апошніх гадоў неяк імгненна забыліся, як і леташнія запэўніванні адпраўленага ў адстаўку экс-главы Нацбанка Пятра Пракаповіча, што больш нам крэдыты МВФ не патрэбныя, а айчыннай эканоміцы па сілах дасягнуць жаданай планкі 500 $ сярэднямесячнай зарплаты. Куды ў выніку скацілася Беларусь, кожны з нас адчуў па сабе, наколькі знізілася наша пакупніцкая здольнасць. Але з неба на нас непрыемнасці не зваліліся, да гэтага краху і абвальнай дэвальвацыі нацвалюты справа заканамерна ішла.

Ужо ў 2010 годзе эканамічная сітуацыя ў Беларусі была складаная, аб чым адкрыта не гаварылі. Беларусам удалося летась прадаць сваіх тавараў і паслуг за год на суму 29,8 млрд. долараў, што склала толькі 79,9 % ад паказчыкаў дакрызіснага 2008 года. У сваю чаргу ў нашу краіну было завезена тавараў і сыравіны, энерганосьбітаў на 7,5 млрд. $ болей. Аднак рост ВУП стымуляваўся, эканоміку накачвалі пустымі грашыма. Перад выбарамі павышаліся амаль у 2 разы заробкі, пенсіі, стыпендыі, якія не падмацоўваліся рэальнымі магчымасцямі краіны.

У выніку маем сумны вынік і адразу не маглі ў чэрвені пагасіць расіянам даўгі (54 млн. $ “Інтэр РАО ЕЭС” за пастаўкі электраэнергіі). У нас ужо пайшлі на скарачэнне шэрагу бюджэтных расходаў на 3,5 трлн. рублёў, дзяржаўны доўг наблізіўся да амаль 38 % ВУП, амаль крытычнай мяжы. Айчынная банкаўская сістэма з-за рэкорднай дэвальвацыі беларускага рубля страціла ў пераразліку да долара амаль чацвёртую частку сваіх актываў і прыкладна трэць свайго капіталу. Цяпер адна бяда спараджае новыя праблемы, трэба прывыкаць жыць па сродках.

Першымі на сабе цяперашнія цяжкасці адчуваюць аграрыі, якім рэзка абмежавалі крэдытную падтрымку, а таксама будаўнічая галіна. У нас зараз налічваецца амаль 856 тысяч чалавек, якія стаяць у чарзе на атрыманне жылля. У наступным 2012 годзе аб’ёмы жыллёвага будаўніцтва скарачаюцца на 1,5 млн. кв. метраў, з іх з дзяржаўнай падтрымкай узвядуць 45 % кватэр, калі сёлета такая дапамога складала 80 %. Значыць, будаўнікі не будуць мець заказаў, як раней, і хутчэй за ўсё на біржу не пойдуць пасля страты працы, а паедуць на заробкі на будоўлі замежных краін. Бюджэтнікам трэба разлічваць толькі на індэксацыю іх заробкаў, а ў астатнім жыццё стала такім дарагім, што шакіруе кожны паход у магазін.

## Надвор’е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 21.07.11 | | | | пятн. 22.07.11 | | | | сб. 23.07.11 | | | | нядз. 24.07.11 | | | | пн.25.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +20 | +24 | +31 | +27 | +21 | +24 | +30 | +25 | +19 | +18 | +21 | +17 | +13 | +16 | +21 | +19 | +14 | +20 | +27 |
| Ціск, мм | 740 | 739 | 738 | 737 | 736 | 736 | 736 | 736 | 736 | 738 | 740 | 743 | 746 | 749 | 750 | 749 | 748 | 747 | 746 |
| Вільготнасць, % | 90 | 70 | 46 | 56 | 81 | 57 | 44 | 65 | 100 | 90 | 61 | 80 | 98 | 81 | 51 | 62 | 90 | 70 | 58 |
| Вецер м/сек | Ю-В 5 | Ю-В 6 | Ю-В 8 | В 5 | В 5 | Ю-В 6 | Ю-В 8 | Ю-В 3 | Ю-З 1 | З 5 | Ю-З 5 | З 5 | З 4 | Ю-З 2 | Ю-В 2 | В 3 | В 3 | В 5 | В 6 |
| | | 22:58 | 12:23 | | | 23:14 | 13:33 | | | 23:34 | 14:43 | | | 23:59 | 15:53 | | - | 17:01 | |

## Дзень за днём

**За апошнюю пяцігодку знешні доўг краіны вырас у 5 разоў і перавысіў 31 млрд. USD. Як і чакалася, кіраўніцтва Беларусі па прыкладзе Кітая стане больш сур'ёзна кантраляваць расходванне замежнай валюты насельніцтвам. Аб'ём жыллёвага будаўніцтва ў 2012 годзе з дзяржаўнай падтрымкай будзе скарочаны на трэць. Ва ўрадзе заявілі, што да канца года тарыфная стаўка 1-га разраду павышацца не будзе, як і заробкі бюджэтнікам. Аматараў спорту парадавала, што беларусы першымі сярод постсавецкіх краін прабіліся на турнір па футболе Алімпіяды-2012 у Лондане.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Прэзідэнт Барак Абама аб'явіў аб пачатку вываду войск з Афганістана, які завершыцца да 2014 года, але амерыканцы захаваюць там шэраг сваіх ваенных баз.

**Грэцыя.** Новы ўрад заручыўся даверам парламента і, каб пазбегнуць дэфолту краіны, пачаў рэзкае скарачэнне бюджэтных выдаткаў, што выклікала масавыя пратэсты насельніцтва.

**Расія.** Міністр сельскай гаспадаркі РФ Алена Скрыннік папярэдзіла калег з Беларусі аб недапушчальнасці фактаў завозу беларускіх сыроў і малпрадуктаў па дэмпінгавых цэнах.

**Харватыя.** Лідары 27 дзяржаў ЕС на сваёй сустрэчы ў Брусэлі прагаласавалі за тое, што з 1 ліпеня 2013 года харваты далучацца і стануць паўнапраўнымі членамі Еўрасаюза.

**Лівія.** Большасць лівійцаў парадаваліся выдачы Міжнародным крымінальным судом у Гаазе (Галандыя) ордэра на арышт шматгадовага дыктатара краіны Муамара Кадафі.

**Літва.** Паліцыя краіны раскрыла злачынную інтэрнацыянальную групу, у якой было і 3 беларусы, яна пастаўляла ў РБ скрадзеныя ў Германіі дарагія аўто, перабівала іх нумары.

**Францыя.** Міжнародны авіякасмічны салон у Ле Буржэ стаў самым пасляховым у гісторыі, тут было заключана розных кантрактаў на агульную суму звыш 100 млрд. USD.

**Бахрэйн.** За заклікі да арганізацыі акцый пратэсту суд краіны прыгаварыў да пажыццёвага турэмнага зняволення 10 дзеячаў апазіцыі, шэраг грамадзян атрымалі ад 2 да 5 гадоў.

**Польшча.** Польскую чыгунку здзівіла, што беларускі бок амаль 2 гадзіны не прымаў у спёку пад 30 градусаў дызель-поезд Цярэспаль-Брэст, "забіты" пад завязку пасажырамі.

**Італія.** Новым главой Еўрапейскага цэнтрабанка стаў прэзідэнт ЦБ краіны Марыа Драгі, яму трэба вырашыць задачу падтрымання курсу еўра, захаваць ранейшы курс Ж. Трышэ.

**Індыя.** Краіна пачала выпуск танных планшэтных камп'ютараў Sakshat з 2 портамі USB коштам 50 $, для студэнтаў яны таннейшыя ў 2 разы, палову кошту аплочвае дзяржава.

**Расія.** Маскоўская мэрыя вырашыла закрыць праблему пробак на асноўных магістралях сталіцы пры дапамозе спутнікавай сістэмы Гланас і адзінай электроннай сістэмы руху.

**ЗША.** Да канца снежня 2016 года захаваў за сабой пасаду Генеральнага сакратара ААН 67-гадовы Пан Гі Мун, краіны свету ўхвалілі яго кандыдатуру на выбарах.

**Люксембург.** Краіну зноў прызналі самай багатай у Еўропе па пакупніцкай здольнасці і ўзроўню жыцця, у пяцёрку лепшых у ЕС увайшлі Галандыя, Данія, Аўстрыя і Ірландыя.

**Кітай.** Адзін з самых багатых людзей краіны (капітал 19 млрд. $) бізнесмен з Ганконга Лі Чжаацзі з нагоды нараджэння 6-га ўнука раздаў 1,5 тыс.калегам па 1285 долараў бонусаў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Па стане здароўя пасля аперацыі на адкрытым сэрцы Героя Беларусі, старшыню Нацбанка РБ Пятра Пракаповіча першым з кіраўнічай эліты адправілі ў адстаўку.

**Салігорск.** За продаж сваіх акцый у ЗАТ "Міжнародная калійная кампанія" інвестарам з Аўстрыі і Англіі "Беларуськалій" атрымаў выручку ў памеры 282 млн. расійскіх рублёў.

**Мінск.** Ва ўмовах крызісу, заявіў экс-глава Нацбанка РБ С. Багданкевіч, трэба пачакаць з продажам "Беларуськалія" і іншых буйных прыбытковых прадпрыемстваў Беларусі.

**Астравец.** Беларускую атамную электрастанцыю вырашылі будаваць па больш дарагой тэхналогіі ўзбуйненых блокаў, гэта дазволіць кампенсаваць адставанне ад графіка.

**Мінск.** Ноччу п'яны малады 22-гадовы кіроўца на хуткасці збіў асвятляльную мачту, якая ўпала і разбіла яшчэ 5 прыпаркаваных іншамарак паблізу магазіна "Радзівілаўскі".

**Баранавічы.** Абласны суд пакараў 17 гадамі турмы раней не судзімага 32-гадовага мужчыну за забойства 5-месячнай дзяўчынкі яго знаёмых.

**Мінск.** Выхаваннем унучкі заняўся экс-прэм'ер, доктар тэхнічных навук, 57-гадовы Сяргей Сідорскі. Пасля адстаўкі напрыканцы снежня ён не знайшоў сабе працу.

**Ганцавічы.** Да Дня беларускага пісьменства ў райцэнтры з'явіцца бюст Якуба Коласа, бо ў гэтых мясцінах класік пачаў пісаць сваю знакамітую трылогію "На ростанях".

**Брагін.** Шалёны чарнобыльскі воўк раніцай выбег на вуліцу вёскі Двор Савічы, дзе пакусаў 5 пенсіянераў і столькі ж сабак, пакуль яго не застрэліў старшыня сельсавета.

**Мінск.** Вядучага праграмы АНТ "Як ёсць так ёсць" украінца А. Міхальчанку спачатку "захлопалі", а потым асвісталі студэнты Інтстытута журналістыкі Белдзяржуніверсітэта.

**Мінск.** Лічаныя дні не даслужыў да звальнення ў запас салдат воінскай часці з Уручча, які загінуў ад паражэння токам пры падрыхтоўцы пампезнага ваеннага параду ў сталіцы.

**Бяроза.** Раённы суд пакараў 4 гадамі турмы 43-гадовага гараджаніна, які п'яным так збіў сваю падпітую цяжарную жонку, што загінула ўнутрыванробнае дзіця на 8-м месяцы.

**Мінск.** З-за складанай фінансавай сітуацыі сталічны Вялікі тэатр оперы і балета адмяніў гастролі летам калег з Санкт-Пецярбурга і прыезд Грузінскага балета.

**Драгічын.** Шматмільённыя страты панесла раённая бальніцы, калі ноччы невядомыя вандалы знішчылі тут 32 пралёты бетоннага плоту і вельмі многа агароджы пашкодзілі.

**Мінск.** З-за нядопуску да здачы летняй сесіі павесіўся на праводзе ад камп'ютара студэнт 1-га курса БНТУ, яго труп у пакоі на здымнай кватэры знайшоў бацька .

## Мядзведзеў узаконіў гастарбайтараў з Беларусі і Казахстана



■ РБК

**Прэзідэнт Расіі Дзмітрый Мядзведзеў падпісаў Федэральны закон "Аб ратыфікацыі дамовы пра прававы статут працаўнікоўмігрантаў і членаў іх сем'яў". Як паведамляе прэс-служба Крамля, закон быў прыняты Дзярждумай 28 чэрвеня і ўхвалены Радай Федэрацыі 6 ліпеня 2011 года.**

Закон ратыфікуе дамову пра прававы статут мігрантаў у рамках Мытнага саюзу (МС). Дакумент быў падпісаны ў лістападзе 2010 года ў Санкт-Пецярбургу.

Дамовай, у прыватнасці, прадугледжваюцца значныя прэферэнцыі для мігрантаў і членаў іх сем'яў з краін - членаў Мытнага саюза (Расія, Беларусь і Казахстан). Так, працадаўца зможа запрашаць іх, абыходзячы працэдуру атрымання дазволу і без уліку штогадовых квот. Дазвол на працу не прыйдзецца атрымліваць і самім мігрантам.

Акрамя таго, яны будуць вызвалены ад пастаноўкі на ўлік па месцы знаходжання на працягу 30 сутак з даты ўезду ў дзяржаву працаўладкавання, а тэрмін іх часавага знаходжання на тэрыторыі краіны - удзельніцы Мытнага саюзу будзе роўны тэрміну дзеяння працоўнай дамовы.

У выпадку датэрміновага скасавання дамовы пасля заканчэння 90 сутак з даты ўезду на тэрыторыю дзяржавы працаўладкавання мігрант атрымае права на працягу 15 сутак скласці новую працоўную дамову, у тым ліку з іншым працадаўцам, гаворыцца ў дакуменце.

## Пракаповіч пайшоў афіцыйна

■ ПРАЙМ-ТАСС

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка вызваліў Пятра Пракаповіча ад пасады Старшыні праўлення Нацыянальнага банка краіны ў сувязі з выйсцем у адстаўку. Адпаведны ўказ № 322 Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў 18 ліпеня, паведамляе прэс-служба главы дзяржавы.**

Як раней паведамлялася, 20 чэрвеня 2011 года Прэзідэнт Беларусі падпісаў указ аб прызначэнні Юрыя Алымава выконваючым абавязкі Старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі. Да цяперашняга часу Алымаў працаваў першым намеснікам Старшыні праўлення Нацбанка.

Пракаповіч, які нядаўна перанёс сур'ёзную аперацыю на сэрцы, павінен прайсці на працягу найбліжэйшых месяцаў курс медыцынскай рэабілітацыі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** За знаходжанне на працы на падпітку за студзень-май з прадпрыемстваў і ўстаноў вобласці звольнілі ўжо 600 чалавек (з іх 3 начальнікі і 28 розных службовых асоб).

**Чашнікі.** Новую ўстаноўку для прамыўкі дрэнажных сістэм набыло прадпрыемства меліярацыйных сістэм, па тэхаснашчанасці (10 экскаватараў) яно стала лепшым у вобласці

**Верхнядзвінск.** З усімі воінскімі рытуаламі ў аграгарадку Сар'я перазахавалі астанкі савецкіх салдат, якія загінулі падчас жорсткіх баёў у гады вайны на тэрыторыі сельсавета.

**Віцебск.** З-за крызісу альбо іншых прычын у чэрвені на Віцебшчыне колькасць крадзяжоў павялічылася на 70 %, усяго раскрываецца цяпер менш за 60 % зафіксаваных злачынстваў.

**Наваполацк.** Старшыня "Беларусбанка" Н. Ермакова паведаміла, што наяўную валюту ў аддзяленнях яе банка можна набыць толькі пасля падачы адпаведных заяў і дакументаў.

**Новалукомль.** Прыватная фірма "Хутарок ля Лукамор'я" пачала ўзводзіць на адным з вадаёмаў ля горада гасцявыя домікі і лазню, для рыбакоў тут гадуюць карася і шчупакоў.

**Віцебск.** Двое падлеткаў з крымінальнымі схільнасцямі ўначы ўзламалі дзвярныя запоры і абрабавалі вулічны халадзільнік прыватнага гандлёвага пункта.

**Бешанковічы.** База адпачынку "Крупеніна" набыла за 30 км у абласным цэнтры ўласнае кафэ і займела турыстычнае агенцтва, штогод яе паслугамі карыстаюцца 10 тыс. чалавек.

**Лёзна.** Каля вёскі Драздзы супрацоўнікі райаддзела міліцыі і мытнікі сумесна з калегамі з Расіі затрымалі ноччу два грузавікі, на якіх перавозілі 7 тон кантрабанднага металалому.

**Орша.** У прыцемках 50-гадовы мужчына, інвалід 1-й групы, не справіўся з кіраваннем трохколавага матаролера, з'ехаў у кювет і ад атрыманых раненняў загінуў на месцы ДТЗ.

**Глыбокае.** Віцебскае аддзяленне Беларускай чыгункі намеціла капітальна адрамантаваць чыгуначную станцыю Глыбокае, а таксама будынкі станцый Езярышча і Сосніцы.

**Полацк.** Малады 19-гадовы беспрацоўны за адну ноч умудрыўся скрасці ў суседнім Наваполацку спачатку "Жыгулі", затым "Мазду". Машыны вярнулі ўладальнікам.

**Віцебск.** Абласная пракуратура распачала крымінальную справу супраць бухгалтаркі аднаго з райаддзелаў міліцыі, якая скрала 6 млн. рублёў з адпускных міліцыянераў.

**Дуброўна.** Каля 5 гадзін раніцы паблізу райцэнтра сутыкнуліся два аўтавозы, людзі не пацярпелі, але з 15 дарагіх іншамарак 11 легкавушак разбіліся, рамонту не падлягаюць.

**Віцебск.** Драмтэатр імя Я. Коласа парадаваў новай прэм'ерай – спектаклем па п'есе Эдварда Радзінскага "Я чакаю сапраўднага мужчыну" у пастаноўцы Юрыя Лізінгевіча.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

Дзяніс Філіпчык

# Імша ў цэнтры Еўропы

**Час няўмольны і можа знішчыць усё. Але людская памяць можа быць мацнейшай за ўсе выпрабаванні на свеце і нават за самае складанае з іх – выпрабаванне часам.**

Недалёка ад вёскі Шо Глыбоцкага раёна на старой савецка-польскай мяжы знаходзілася польская стражніца Каменны Воз. Людская памяць захавала гісторыю яе абароны, якую газета «Вольнае Глыбокае» ўжо ўзгадвала. Але ў гэтым годзе нечакана былі знойдзены рэшткі абаронцы стражніцы Паўла Палчынскага. Гэта падштурхнула глыбоцкага пробашча, ксяндза-дэкана Мечыслава Янчышына арганізаваць валанцёрскі летнік з мэтай ушанавання памяці ахвяр ІІ сусветнай вайны і ўсталявання гістарычнай справядлівасць.



Глыбоцкі ксёндз пробашч Мечыслаў Янчышын.

### Гісторыя

Перш чым распавядаць пра летнік і справы сённяшняга дня, для таго, каб лепш зразумець сутнасць тых крывавых падзей, звернемся да гісторыі. А гісторыя гэта пачынаецца ў 1921 г., калі падводзіўся канчатковы вынік савецка-польскай вайны і была падпісана сумна вядомая Рыжская мірная дамова. Насуперак рэкамендацыі краін Антанты ды без уліку меркавання беларускага народа была ўстаноўлена новая мяжа паміж РСФСР і ІІ Рэччу Паспалітай, якая прайшла па лініі "старых нямецкіх акопаў" і амаль на два дзесяцігоддзі раздзяліла беларускі і ўкраінскі народ на дзве часткі. Толькі 17 верасня 1939 г. пачалося далучэнне тэрыторыі Заходняй Беларусі і Украіны да СССР. Менавіта тады і адбываліся падзеі, якім зараз даволі складана даць ацэнку. У іх ліку была і абарона стражніцы.

Але агульныя разважанні і звесткі не могуць ва ўсёй паўнаце перадаць складанасць і трагізм сітуацыі. Таму прыводзім вашай увазе ўспаміны жыхаркі в. Шо **Тацццяны Станіславаўны Забелы**, якая нарадзілася ў 1920-м, яшчэ за год да падпісання Рыжскага міру, і не магла сабе нават уявіць, як усё гэта адаб'ецца на яе лёсе.

### Мяжа і жыццё "пры Польшчы"

Мяжа праходзіла непадалёк. Ішлі слупы ў чатыры рады, а паміж імі быў нацягнуты калючы дрот. З польскага боку былі ўбіты яшчэ невялічкія калочкі, паміж якімі нацягвалі ледзь заўважную чорную нітку. Калі яна была разарвана, то вызначалі, што нехта пераходзіў мяжу. Стаялі насупраць слупы: на польскім баку белы з чырвонымі палосамі, а на другім баку — чырвоназялёны.

Жыць пры Польшчы было цяжка: усё кругом панскае. Паны хацелі, каб плаціць менш, а на іх працавалі больш. Але хто працаваў добра, той і жыў лепш.

### Стражніца

Вакол стражніца была абнесена агароджай, каля брамкі стаяў салдат. Мы ідзём па ягады, а часавы нас прапускаў. Іншы раз спытае, адкуль мы, што ды як, а бывала і не. Калі вярталіся назад з ягадамі, то прадавалі салдатам па 10 грошаў за стакан.

Салдаты і на танцы да нас прыходзілі, а на Каляды і Цярэшку нават жанілі. Праўда, з салдатам не кожная дзяўчына танцаваць ішла, бо лічылася гэта не зусім добрым.

### Бой

Напалі на іх [стражніцу], як пачалася вайна*. Напалі на сонных. Казарма стаяла адным канцом да дарогі, з якой яны [Чырвоная Армія] прыйшлі, а іншыя дзверы былі з боку балота. Калі пачаўся стрэл, то салдаты падхапіліся і хто ў чым быў пабеглі ў балота. А Палчынскі, іх камандзір, застаўся прыкрываць адыход. Калі пачалі страляць, ён узняўся на казарменую вежу і там з кулямётам заняў абарону. Палчынскі каля гадзіны вёў няроўны бой. Спыніць яго змаглі толькі тады, калі нехта з савецкіх салдат закінуць у люк вежы гранату.

Калі ўсё абціхла і войска рушыла далей, польскія салдаты пачалі выходзіць з балота. Мясцовыя жыхары дапамагалі ім адзеннем ды харчаваннем. Салдаты ж і расказалі вяскоўцам, як усё адбывалася. Пасля людзі з вёскі пайшлі і непадалёк ад стражніцы таемна пахавалі яе абаронцу. За магілай ніхто не даглядаў, і паступова месца пахавання было страчана. Пасля стражніцу разабралі. Вокол дзі і на падмурках узняўся лес. Усё менш станавілася сведкаў, гісторыя пачала забывацца. Але…

Але ў гэтым годзе ў супрацьпажарным рове былі знойдзены рэшткі яе адзінага абаронцы Палчынскага. З удзелам польскага боку пачалося расследаванне і пошук родзічаў забітага.







Падчас работ была знойдзена цагліна з кляймом «Круляўшчызна. 1935 г.»

### Летнік

Каб прывесці ў парадак месца смерці вялікай колькасці людзей (бо, па сведчаннях мясцовых жыхароў, пры ўзяцці стражніцы, акрамя Палчынскага, загінула шмат чырвонаармейцаў), быў арганізаваны трохдзённы валанцёрскі лагер. Ініцыятарам яго арганізацыі быў глыбоцкі пробашч ксёндз Мечыслаў Янчышын. На яго прапанову адгукнулася 12 маладзёнаў з Глыбокага, у іх ліку скаўты і аўтар гэтых радкоў.

Тры дні, канечне, замала, але пачатак справе пакладзены. На месцы стражніцы, ад якой захаваліся толькі падмуркі, было вырашана паставіць крыж. Валанцёры разам з ксяндзом Мечыславам расчысцілі месца для ўсталявання крыжа і падыход да яго. Непадалёк, у лесе, амаль у самым цэнтры Еўропы, за ўсіх ахвяр і загінуўшых была адпраўлена Святая Імша.

Адметна тое, што з працай атрымалася спалучыць і адпачынак. Наш лагер размясціўся на беразе маляўнічага возера Шо, якое да нядаўняга часу лічылася цэнтрам Еўропы. Намёты, вячэра, прыгатаваная на вогнішчы, і разам праведзены час – усё гэта проста цудоўна!

Вынікі падводзіць яшчэ рана, але нешта сказаць можна ўжо зараз. Безумоўна, зроблены толькі першыя крокі ў справе ўшанавання памяці загінуўшых на гэтым месцы салдат. Бясспрэчна і тое, што адназначна і беспамылкова ацаніць тыя падзеі пакуль што мы не можам. Але не гэта галоўнае. Галоўнае тое, што мы памятаем сваю гісторыю, не зракаемся сваіх каранёў і тым самым не губляем сваёй будучыні. Галоўнае тое, што мы імкнёмся захаваць і перадаць сваім нашчадкам найвялікшы скарб, які атрымалі ад продкаў, — наша мінулае.

**Заўвагі рэдакцыі:**

- ***маецца на ўвазе 17 верасня 1939 года.***



Група валанцёраў на чале з ксяндзом Мечыславам Янчышыным.



Прыступкі ад стражніцы. На правым архіўным здымку бачны ўваход у будынак і гэтыя ж прыступкі.



Стражніца ў Галубіцкай пушчы, на фоне якой 17 верасня 1939 г. разгортваліся драматычныя падзеі. Сёння на гэтым месцы – лес з велічэзнымі соснамі. Здымак 1930-х гг.

# Святыя месцы г. Дзісны

**Заканчэнне.**
***Пачатак у №28 (588) за 14 ліпеня 2011 года.***

■ **Фадзей Шымуковіч,**
*педагог-пенсіянер,*
*г. Дзісна.*

У 1812г. перад Барадзінскай бітвай абраз быў перанесены ў Маскву, а затым у Яраслаўль, пасля чаго зноў вярнулася ў Смаленск. Вядома, што цудатворны абраз знаходзіўся ў Смаленску да 1941г. Далейшы яго лёс невядомы. Ёсць і іншыя меркаванні, што ён мог і раней савецкімі ўладамі быць прададзены за мяжу ў абмен на абсталяванне для індустрыялізацыі краіны. Але дакладных дадзеных пра месца яго знаходжання і прычынах знікнення няма. Дакладна вядома толькі тое, што самога арыгінала няма і дзе ён знаходзіцца, ніхто не ведае.

У свой час Полацкае княства было досыць багатым і культурна развітым княствам. Відаць, полацкія епіскапы таксама заказалі спіс (копію) гэтага цудатворнага абраза. І, ратуючы яе ад нашэсця маскоўскіх акупантаў і рабаўнікоў, вывезлі па р. Дзвіне ў Дзісну, і тут яна знайшла свой годны прытулак.

У свой час знакаміты ювелір Пётр Слізак вырабіў са срэбра аклад для абраза, які ўяўляе вялікую ювелірную каштоўнасць. У часы перабудовы злодзеі-варвары распілавалі аконныя краты, уначы праз прарабілены лаз злупілі срэбны аклад і замест ювелірнага вырабу панеслі 14 фунтаў срэбнага крышана. Сам абраз не змаглі панесці, ён выкананы на дошцы і па памерах не пралазіў ў лаз у акне.

З чэрвеня 1918г. пад алтаром гэтай царквы знаходзіліся рэшткі святапакутніка айца Канстанціна. У наш час гэта царква выконвае функцыі асноўнага гарадскога храма.

У праўленне караля Жыгімонта Аўгуста 12 студзеня 1569г. правы каталікоў зраўняныя з правамі праваслаўных жыхароў. «У г.Дзісне з асоб магістрата, г.зн. з бургамістраў, лаўнікаў, палова павінна быць закона рымскага і палова грэцкага». Але гэта зусім не паказвае на колькасць каталікоў у Дзісне. Вядома, што тым часам ва ўсім полацкім краі каталікоў было няшмат, тым часам у грамаце на магдэбургскае права ў Полацку, дадзенай каралём Аляксандрам 4 кастрычніка 1498г., гаворыцца тое ж самае. Відавочна, каралі імкнуліся падтрымліваць узніклы каталіцызм і з прычыны гэтага давалі каталікам роўныя правы з праваслаўнымі, нягледзячы на тое, што колькасць каталікоў была вельмі маналікая.

Першы касцёл з'явіўся ў Дзісне ў 1583г. Ён падпарадкоўваўся полацкім езуітам. Касцёл быў драўляным і месцаваўся на Васкрасенскай вуліцы, супраць агароджы праваслаўнага Васкрасенскага манастыра з паўднёвага яго боку. У 1630г. ваявода полацкі Крыштаф Малькевіч-Хялкоўскі ўвёў у Дзісну францысканцаў. На правым беразе Заходняй Дзвіны ім быў падораны маёнтак у Кліменшчызне для вырошчвання садавіны і гароднiны. Тады ж у Дзісне на месцы цяпер існага касцёла ім быў пабудаваны драўляны касцёл. Калі драўляны будынак прыйшоў у трухлявы стан, быў на гэтым жа месцы ў 1773годзе пабудаваны каменны касцёл, адзін з найпрыгажэйшых будынкаў Дзісны. Яго памеры 35x16м і вышынёй не меней 30м. Таўшчыня цагляных сцен да 1,5м. У сцяне вітая лесвіца на гарышча. Будаваўся ён з некаторымі элементамі крэпасці. З падвала, з байніц можна было з гармат весці агонь па Дзвіне. Ёсць байніцы і ў сценах. У паўночнай сцяне на вышыні другога паверху ўмураваны тры стаканы ад артылерыйскіх шрапнэльных снарадаў. Па меркаванні былых старажылаў, гэта памяць пра баі савецкіх войскаў з польскімі ў 1920г. Тады ж з паўднёвага боку касцёла пабудаваны цагляны будынак з капітальнымі скляпамі, кляштар, у якім пражывалі манахі-францысканцы. На ўзроўні другога паверха кляштар злучаўся праходам з касцёлам. З падвала касцёла ішоў кудысьці падземны ход, цяпер зачынены масіўнымі металічнымі дзвярамі. З паўночна-ўсходняга боку знаходзілася званіца. Увесь будынак быў вельмі правільна спланаваны, будаўніцтва выканана на самым высокім, якасным узроўні.

Драўляны касцёл, пабудаваны Баторыем, дзейнічаў як парафіяльны.

У 1831г. пасля падаўлення паўстання абодва касцёлы былі зачынены, францысканцы выдалены з горада. У 1839г. францысканскі касцёл было вырашана перабудаваць у праваслаўную царкву. Пасля абследавання прыйшлі да высновы, што неабходна выканаць шмат дарагой работы, на што не было грошай. Ад задумы прыйшлосяадмовіццаяшчэ і таму, што пані Людвіка Каствравіцкая, уладальніца маёнтка Дарошкавічы, дала згоду вылучыць неабходную суму грошай пры згодзе перадачы францысканскага касцёла ў якасці парафіяльнага каталікам, а ў царкву перабудаваць драўляны касцёл. Так і паступілі. У 1842г. драўляны касцёл перадалі праваслаўным, якія і перабудавалі яго ў праваслаўную Свята-Мікалаеўскую царкву. Падчас вялікага пажару 1882г. царква згарэла.

У 1844г. францысканскі касцёл стаў парафіяльным, а кляштар стаў плябаніяй, дзе сталі пражываць ксяндзы. Пажар 1882г. нарабіў таксама шкоды касцёлу, але ўжо ў 1883г. страты былі ўхіленыя. Дзісненскі касцёл асвечаны ў гонар Бязгрэшнага Зачацця Панны Марыі.




Касцёл святой Тэклі ў Дзісне. Фота да 1939 г.
Ze zbiorów Narodowego Archiwum Cyfrowego.

У першыя ж дні вайны нямецкая авіяцыя нанесла нязначны бомбавы ўдар па Дзісне. Па словах старажыла Фурса Яўгенія Іосіфавіча, бомбакіданне было праведзена па самых важных аб'ектах, быццам немцам былі добра вядомыя цэлі. Адна з бомбаў прабіла дах, столь і выклікала пажар усярэдзіне касцёла. Згарэла ўсё, што магло згарэць і, відаць, тады ж згарэў і арган. Сцены заставаліся цэлымі.

З 30 чэрвеня па 3 ліпеня 1944г., калі 159-я палкавая брыгада штурмавала горад, сцены касцёла атрымалі нязначныя калецтвы ад танкавых гармат. Абышоў бокам абстрэл горада артылерыяй 3 ліпеня 1944г. в. Завуцце, калі цэнтр горада не менш чым на 80% быў знішчаны. Нязначна пацярпела толькі плябанія. Аднавіць касцёл у тым стане, у якім ён выйшаў з вайны, ніякай сур'ёзнай праблемы не складала. Нават Васкрасенскай царкве былі нанесеныя больш сур'ёзныя пашкоджанні, чым касцёлу.

Касцёл пачалі выкарыстоўваць у якасці ціра для стральбы. А паколькі ў тыя часы амаль ніякага кантролю за выкарыстаннем зброі не было, то дзеці, асабліва з сем'яў начальства, вольна ёй песціліся. Сын начальніка міліцыі капітана Сарокіна з таварышамі арганізаваў стральбу з МК вінтоўкі штатнымі патронамі па галаве статуэткі Панны Марыі, змешчанай над уваходам у касцёл. Ці проста супала, ці рушыла ўслед кара боская, але ў адзін сонечны пагодлівы дзень ні адтуль ні адсюль чорная хмара накрыла Дзісну і першай жа маланкай быў забіты сын капітана міліцыі Сарокіна, які быў арганізатарам хуліганскай стральбы па святой статуэтцы Панны Марыі. Лекары юнака не змаглі вярнуць да жыцця. Гэта падзея адбылася дзесьці ў 1956-1957гг.

Незаслужана атрымаў адплату і касцёл, нібы ён вінаваты ў смерці юнака. Высілкамі райкама партыі, райвыканкамата, міліцыі было прынята рашэнне і атрымана згода ад вышэйстаячых органаў пра падрыў сцен касцёла. Прыбылі ваенныя сапёры з Баравухі з дастатковай колькасцю выбухоўкі. Як адмыслоўцы сваёй справы, яны аказаліся непадрыхтаванымі, разлічыцьсілунакіраванага дзеяння выбуху не ўмелі. Заклалі зарад велізарнай сілы і рванулі. Пярэдняя сцяна абрынулася ўнутр будынкі, руйнуючы на сваім шляху рэшткі даху, столі і перакрыцці склепа. Па астатніх сценах пайшлі расколіны. А вось у жылых хатах у радыусе прыкладна 500-600м ад ударнай хвалі павылятали шыбы, а ў кагосьці разам з рамамі. А гэта быў той час, калі з будматэрыяламі быў дэфіцыт, ды і не ў кожнага былі грошы нанова зашкліць вокны, зрабіць рамы. Аперацыю прыйшлося спыніць.

У сярэдзіне 90-х гадоў мінулага стагоддзя ўсё гучней пачалі раздавацца галасы пра аднаўленне касцёла. Пачалі збіраць неабходныя дадзеныя, адпраўляць лісты ў высокія інстанцыі. Прыязджала некалькі груп інжынераў-будаўнікоў, вывучалі ўстройства і крэпасць падмурка, сцен, па якіх пайшлі расколіны і прыйшлі да высновы: рэстаўрацыю ў першасным выглядзе вырабіць нельга, не вытрымаюць сцены аркавага напору столі і шэраг іншых чыннікаў. Неабходна разабраць сцены і скласці іх па-новаму. Касцёл знаходзіўся ў рэестры рэспублікі як архітэктурная гістарычная каштоўнасць. Прыйшлі да тупіковай сітуацыі. Аднавіць можна толькі пры ўмове выканання 1:1 усіх яго формаў і канструкцый, а ўжо перакладка сцен усё парушае, бо ён зроблены з цэглы, выраблена ўручную, нестандартных памераў.

Знайшліся ўмелыя людзі, якія прапанавалі выйсце з тупіковай сітуацыі, а менавіта пазбавілі яго статусу гістарычнай архітэктурнай каштоўнасці, што дазволіла весці аднаўленчыя працы з адхіленнем ад першапачатковага ўзору і выгляду. Вось ужо 5 гадоў вядуцца працы па аднаўленні гэтага аднаго з найпрыгажэйшых будынкаў горада. Як часта ў нас бывае, што галаваціпства аднаго чалавека, асабліва калі ён ва ўладзе, даводзіцца расхлёбваць масам.

Гадоў 15 таму жыхарка Дзісны Цярэшка Браніслава Аляксандраўна за свае грошы на каталіцкіх могілках пабудавала капліцу. Цяпер у гэтай капліцы адбываецца адпяванне нябожчыкаў.

Паважаныхчытачоўпрашу строга не судзіць, калі асобныя моманты не зусім адпавядаюць рэчаіснасці. Не ўвесь матэрыял узяты з архіўных матэрыялаў. Сёетое напісана на падставе ўспамінаў старажылаў. А чалавечай памяці ўласціва і памыляцца, абы без злога намеру.





# Суд ацэніць дзеянні грамадзян

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

Пятніца, передвыхадны дзень, асноўная маса грамадзян прадчувае надыходзячыя выходныя дні, будуе планы на адпачынак, але толькі не супрацоўнікі міжраённай інспекцыі. Як паказвае аналіз працы, асноўная колькасць правапарушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства здзяйсняецца менавіта ў перадвыходныя і выходныя, і гэта не дзіўна. Глыбоцкі і Пастаўскі раёны валодаюць значнымі воднымі іляснымі рэсурсамі, што прыцягвае на нашы вадаёмы і ў лясы шмат адпачываючых грамадзян, рыбакоў-аматараў, ну і, вядома ж, браканьераў. Таму супрацоўнікі міжрайінспекцыі сумесна з іншымі прыродаахоўнымі, праваахоўнымі органамі ў такія дні працуюць ва ўзмоцненым рэжыме.

10 ліпеня 2011 года каля 14 гадзін супрацоўнікам Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету паступае паведамленне пра тое, што на возеры Мушкат усталяваны браканьерскія сеткі. Прыбыўшы на вадаём, рэйдавая група выявіла, што на возеры шмат адпачываючых грамадзян і цалкам магчыма, што хтосьці з адпачывальнікаў і мог неўзаметку ўсталяваць сеткі ўбаку ад тых, хто купаецца. Рэйдавая група, абраўшы зацішныя месцы, размеркавалася ўздоўж берага возера – і пайшлі доўгія гадзіны чакання браканьераў. Прайшло больш 6 гадзін чакання, адпачывальнікі разышліся, і толькі інспектары працягвалі назіраць за возерам і сеткамі. І вось на зямлю стала апускацца змяркание, бачнасць пагоршылася, але дасведчаныя інспектары хутка заселкі ціха ідучага чалавека. Мужчына, агледзеўшыся па баках, хутка накіраваўся ў бок усталяваных сетак, і вось ужо першая сетка выбрана і складзена ў мяшок, прыйшла чарга другой сеткі, але за ўсім гэтым працэсам назіралі інспектары. Якое ж было здзіўленне парушальніка, калі побач з ім апынуліся супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі. Раённы суд ацэніць дзеянні грамадзяніна Ш., а накладзены штраф надоўга астудзіць жаданне рыбачыць сеткамі.

12 ліпеня 2011 года рэйдавая група Глыбоцкай міжрайінспекцыі працавала на тэрыторыі Пастаўскага раёна, калі паступіла паведамленне ад памежнага нараду в/ч 2044 пра тое, што вайскоўцамі затрымана аўтамашына з трыма жыхарамі г. Паставы, у якой выяўлена не зарэгістраваная паляўнічая зброя. Падчас разбіральніцтва парушальнікі ўсяляк спрабавалі заблытаць інспектараў і вайскоўцаў, але адказваць за незаконнае паляванне і захоўванне незарэгістраванай зброі усё ж прыйдзецца.

Велізарная падзяка грамадзянам, якія аказваюць дапамогу міжраённай інспекцыі ў барацьбе з браканьерамі.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства можна паведаміць па тэлефонах: 8-02156-286-70 «гарачая лінія», маб. т. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49 (МТС).

Энерганагляд інфармуе.

# Пачасціліся няшчасныя выпадкі пры эксплуатацыі воданагравальнага абсталявання

■ **А. Ю. Рацькоўіч,**
*інспектар Глыбоцкага міжраённага аддзялення філіяла «Энерганагляд».*

Па інфармацыі Савета Бяспекі Рэспублікі Беларусь, з прычыны парушэння патрабаванняў эксплуатацыі воданагравальнага абсталявання ў арганізацыях Рэспублікі Беларусь пачасціліся няшчасныя выпадкі пры яго эксплуатацыі, якія пацягнулі цяжкія наступствы. Так, з 2004 года па цяперашні час у выніку выбухаў газавых балонаў, вадагрэйных катлоў і іншага воданагравальнага абсталявання пацярпела 27 чалавек, з іх 7 загінула.

Адным з апошніх няшчасных выпадкаў у выніку нездавальняльнай эксплуатацыі водападагравальніка з'явіўся групавы няшчасны выпадак з начальнікам змены і апаратарам ацяпляльна-вытворчай кацельні ААТ «Мастадрэў» канцэрна «Беллеспаперапрам» (г.Масты Гродзенскай вобласці), адбыты 08.04.2011.

**У мэтах недапушчэння няшчасных выпадкаў пры эксплуатацыі водападагравальнікаў неабходна выконваць наступныя патрабаванні:**

**1.** Падагравальная ўстаноўка павінна быць абсталявана аўтаматычным рэгулятарам тэмпературы, які забяспечвае тэмпературу вады ў адпаведнасці з зададзеным рэжымам. Рамонт аўтаматычных рэгулятараў і прылад дыстанцыйнага кіравання павінен праводзіцца падчас рамонту асноўнага абсталявання. **ЗАБАРАНЯЕЦЦА** эксплуатацыя падагравальнікаў (калярыфераў) з няспраўнымі сродкамі цеплавой аўтаматыкі.

**2.** Падагравальная ўстаноўка павінна быць абсталявана кантрольна-вымяральнай апаратурай паводле патрабаванняў правіл.

**3.** Падагравальнікі з няшчыльнымі трубкамі павінны неадкладна АДКЛЮЧАЦЦА ад цеплавой сеткі. Уключоюць іх пасля ліквідацыі дэфектаў і атрымання дадатных вынікаў праверкі на шчыльнасць.

**4.** На кандэнсатапровадах ад падагравальнікаў за кандэнсатаадводчыкамі павінны быць усталяваны пункты адбору спроб для кантролю за якасцю кандэнсату, а таксама прадугледжана адключэнне падагравальніка ад агульнай схемы збору кандэнсату і яго дрэнажу пры нездавальняльнай якасці кандэнсату.

**5.** Падагравальнікі пасля капітальнага і бягучага рамонту, а таксама перад пачаткам ацяпляльнага перыяду павінны падвяргацца гідраўлічнай апрасоўцы на трываласць і шчыльнасць ціскам 1,25 працоўнага, але не ніжэй 1МПа (10 кгс/кв.гл). Вынікі праверак афармляюцца адпаведнымі актамі.

**6.** Рамонт падагравальнікаў і ўсіх дапаможных прылад павінен праводзіцца штогод у адпаведнасці з графікам, узгодненым з тэрмінамі рамонту цеплавога абсталявання і цеплаправодаў сістэмы цеплазабеспячэння.

**7.** Стан рэгулюючых і запорных прылад, якія выкарыстоўваюцца ў схемах цеплавой аўтаматыкі, павінен задавальняць тэхнічным патрабаванням па шчыльнасці, расходным характарыстыкам.

**8.** У структурных падраздзяленнях арганізацыі, якія здзяйсняюць нагляд і эксплуатацыю сродкаў кантрольнавымяральных прыбораў і аўтаматыкі, павінны быць падрабязныя схемы расстаноўкі аўтаматычных рэгулятараў і прыбораў, мантажныя схемы з указаннем маркіроўкі, а таксама інструкцыі па эксплуатацыі і карты налад рэгулятараў.

**9.** Рамонт аўтаматычных рэгулятараў і прылад дыстанцыйнага кіравання павінен выраблiяцца падчас рамонту асноўнага абсталявання. **ЗАБАРАНЯЕЦЦА** эксплуатацыя падагравальнікаў (калярыфераў) з няспраўнымі сродкамі цеплавой аўтаматыкі.

# Віншаванкі

**Любімага мужа**

*Віктара Віктаравіча Васілеўскага*

**Віншуем з юбілеем!**

Все вместе в день рожденья твой
Желаем сердцем и душой
Здоровья, бодрости и смеха,
Во всех делах твоих успеха
И чтоб светила бы всегда
Тебе счастливая звезда.

*Ад жонкі і Ягора*

*Ірыну Міхайлаўну Шылёнак*

**Віншуем з юбілеем!**



Желаем всегда и и во всём успевать,
Усталости, сабости, горя не знать,
Желаем всегда оставаться счастливой,
Весёлой, хорошей, здоровой, красивой.
Пусть солнце тебя в этой жизни согреет,
Господь для тебя пусть добра не жалеет,
Пусть ветер уносит печали и горе
И радости будет пусть целое море.

*Бацькі.*

*Ірыну Міхайлаўну Шылёнак*

**Віншуем з юбілеем!**



Мы пожелать хотим всего так много,
Ведь в жизни столько свете и любви.
Но пожелаем самого простого –
Чтоб стали явью все твои мечты.
Желаем счастья, радости, здоровья,
Желаем бодрости на много лет,
Чтоб солнечным теплом и светом
Был в твоей жизни каждый день согрет!

*Марына, Саша, Даша.*

*Святлану Уладзіміраўну Фурс*

**Сардэчна віншуем з юбілеем!**

**Любимая, добрая мама и лучшая в мире жена**
**С днём юбилея, родная, мы поздравляем тебя!**
Побольше счастливых мгновений,
Чтоб все исполнялись мечты,
А в радостной жизни семейной –
Прекрасной и чистой любви.
Годам не украсть твою молодость
В настроеньи, в лице и душе,
Здоровья, энергии, бодрости
Мы с папой желаем тебе!



*Муж, дзеці і іх сем'і*

*Наталлю Зыфрыдаўну Шчаснаю*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Будь самой веселой и самой счастливой,
Хорошей, и нежной, и самой красивой
Будь самой внимательной, самой любимой,
Простой, обаятельной, неповторимой,
И доброй, и строгой, и слабой, и сильной,
Пусть беды уходят с дороги в бессильи.
Пусть сбудется все, что ты хочешь сама.
Любви тебе, веры, надежды, добра!



*Сям'я Будзіч*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

**25 – 31 ліпеня 2011 г.**



Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 р.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 25 ліпеня




**06.00, 07.00, 08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** «Деловая жизнь».
**08.30** Документальный сериал «Горожане-2011»: Любляна.
**09.10** Мелодрама **«Маргоша»**.
**10.05** Д/ф «Звездная жизнь» (Украина).
**11.05** Мелодрама **«Маруся. Возвращение»**.
**12.10** Мелодрама **«Апельсиновый сок»**.
**13.50** Синематека.
**14.30** Nota Bene.
**15.15, 19.20** Новости региона.
**15.35** «Здоровье».
**16.05** Требуется.
**16.15** Д/ф «Моя правда». Фильм «Владимир Пресняков».
**17.10** Сериал **«Маршрут милосердия»**.
**18.00** Мелодрама **«Маруся. Возвращение»**.
**18.50, 00.40** «Зона Х».
**19.30** Д/ф «Горожане-2011»: Минск.
**20.00** Мелодрама **«Маргоша»**.
**21.00** «Панорама».
**21.40** «Командировка».
**21.55** Комедия **«Плохой хороший полицейский»**.
**00.10** Д/ф»В поисках истины». Фильм «Проклятые сокровища Мазепы».
**00.45** День спорта.




**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Смак».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Любительница частного сыска Даша Васильева»**. Многосерийный фильм.
**11.55** «Детективы».
**12.30** «Живая природа: прямой репортаж».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Контрольная закупка».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать» с Михаилом Ширвиндтом.
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо»**. Многосерийный фильм.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20 «Счастливы вместе»**. Комедийный сериал.
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Фильм **«Хиромант. Линии судеб»**.
**22.10** Фильм **«Атлантида»**.
**23.05** « Я - супермен».
**00.00 «Крем»**. Многосерийный фильм.
**01.35-01.55** Ночные новости




**07.00** «ЛАДное утро».
**08.00** Телебарометр.
**08.05** Сериал **«Ты моя жизнь»**.
**09.00** Детектив **«Журов»**.
**09.55** Альбарутения.
**10.25** Пра мастацтва.
**10.50** Женсовет.
**11.25** Конкурс-викторина «Дети нового поколения». Десятые классы. Первый полуфинал.
**12.25** Приключенческий фильм **«Легенда острова Двид»**.
**14.20** «Навіны надвор'я».
**14.45** Реальный мир.
**15.15** «Час суда. Дела семейные».
**16.15** Врачебные тайны.
**16.45** Врачебные тайны +.
**17.00** Битва экстрасенсов.
**18.00** Мелодрама **«Ты моя жизнь»**.
**19.00** Детектив **«Журов»**.
**20.00** Белорусское времечко.
**21.00** Калыханка.
**21.15** Телебарометр.
**21.20** КЕНО.
**21.25** Триллер **«Двойной просчет»** .
**23.15** Битва экстрасенсов.
**00.10** Реальный мир.




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро.Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.30** «Большой завтрак».
**10.05** «Зеленый огурец. Полезная передача».
**10.30** «24 часа».
**10.40 «Наши соседи»**. Сериал.
**11.45** «Званый ужин».
**12.35** «Большой город».
**13.10** «Дальние родственники».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**14.45** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** «Я-путешественник».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Огонь любви»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.25** Фильм **«АЛЬПИНИСТ»**.
**22.00** «Репортер СТВ».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Тайны мира с Анной Чапман».




**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:30 «Час гонару»**, серыял: 39 серыя
**8:15** Чаму дэмакратыя? 8 серыя: «Мы за вамі назіраем»
**9:10** Басанож па свеце/
**9:35** На колах («Нямецкая хваля»)
**10:10** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў)
**10:35** «Бульбаны», мультсерыял
**10:40** МакраФон: **Канцэрт гурта «Ляпіс Трубяцкой»**
**11:20** Без рэтушы: «Бывай, зброя?..», дак. фільм, рэж. Андрэй Шобін, 2010 г., Беларусь
**11:40** Эксперт
**12:00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня)
**12:05 «Судовы выканаўца»**, маст. фільм, Польшча
**13:40 «Час гонару»**, серыял: 39 серыя
**14:25** Чаму дэмакратыя? 8 серыя: «Мы за вамі назіраем»
**15:20** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»)
**15:45** Без рэтушы: «Бывай, зброя?..», дак. фільм
**16:05** Эксперт
**16:20** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў)
**16:45** «Бульбаны», мультсерыял
**16:50** Сцяна, дак. цыкл
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Ранча Піковая Сямёрка»,** серыял: 26 серыя
**17:30 «Час гонару»,** серыял: 39 серыя
**18:15** Чаму дэмакратыя? 8 серыя: «Мы за вамі назіраем»
**19:10** Побач з намі
**19:30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня)
**19:35** Калыханка для самых маленькіх
**20:00** «Над Нёмнам» (тэлечасопіс)
**20:15** Еўропа сёння («Нямецкая хваля»)
**20:40** Эксперт
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Хто ёсць кім?: «Валерый Леванеўскі»
**21:45 «Судовы выканаўца»,** маст. фільм, Польшча
**23:15** Аб'ектыў

